Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. ЦАНА НУМАРУ 20 ГР.

№ 10 Нядзеля 3 Чэрвеня 1928 г. м. Вільня. Год I

# ГРАМАДЗЯНІН

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ДУМКІ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

Падпісная цана на 1 месяц 50 грашэй, на 2 месяцы 1 злоты. Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Zawalna 6, m. 5,

АБВЕСТКІ ПА ЎМОВЕ

## Пасьля працэсу „Грамады“.

Пасьля доўгіх паседжаньняў працэс „Грамады“ закончыўся суровым асудам галоўных яе павадыроў на чале з 4-ма бымшымі паслам, папаўшымі на лаўку абвінавачаных. У даным выпадку ідзе ня столькі аб разьмер вымеранай судом кары, ці наагул рашэньня Суда, у кампэтэнцыю якога ня маем права ўмешвацца, сколькі аб тыя абставіны, у якіх нарадзілася і вырасла «Грамада», знайшоўшая сваё апошняе слова ў гэтым суровым асудзе.

Дзейнасьць асуджаных прызнана Судом пагражаючай цэльнасьці Дзяржавы, антыдзяржаўнай, і як гэткая падлягае законнай кары. Дык не за імкненьні да нацыянальнае незалежнасьці, на што, як паказалі паважаныя сьведкі з польскага грамадзянства, мае права кожны народ, а за тую форму і спосабы, у якія выліліся гэтыя імкненьні, была пасаджана „Грамада“ на лаву абвінавачаных. Трэба мацней падкрэсьліць гэтыя два моманты, наўкола якіх абяртаўся ўвесь час Суд, каб перасьцерагчы на будучы час як польскае, гэтак і беларускае грамадзянства проці новых небясьпечных крокаў.

Было-бы вялікай і шкадлівай для Дзяржавы абмылкаю з боку польскага грамадзянства, калі-б яно вычытала ў асудзе Судом „Грамады“ пазбаўленьне яе права да нацыянальных імкненьняў і ў залежнасьці ад гэтага устасункавала свае адносіны да беларускае нацыянальнасьці наагул у межах Польскае Дзяржавы. І наадварот, — калі-б беларускае грамадзянства ўбачыла ў гэтым спробу з боку польскіх уладаў абмежаваць ці стлуміць нацыянальныя яго імкненьні, нават калі яны разьвіваюцца ў легальнай форме, і упала бы ў апатыю і бяздзейнасьць, захаваўшы варожасьць да братняга польскага народу.

У часе працэсу польская дэмакрацыя выразна ўказвала на тыя ненармальныя абставіны, панаваўшыя на нашых землях пры папярэдніх урадах, якія стварылі дагодны грунт для разьвіцьця «Грамады». Дык ліквідацыя «Грамады» павінна была распачынацца не з барацьбы з яе хвараблівымі праявамі, а з прычынамі, іх выклікаўшымі. Бо як ня суровая судовая кара, спаткаўшая павадыроў «Грамады», яна не запужае яе прыхільнікаў. І «Грамада як істнавала, так і будзе істнаваць, пакуль будуць істнаваць спрыяючыя яе разьвіцьцю абставіны, — можа толькі зьменіць форму працы.

Вось на што павінна быць зьвернута галоўная ўвага польскага грамадзянства, чамусь-то адразу змоўкшага пасьля пастановы Суда, у той час як да пастановы аб гэтым шмат гаварылася і пісалася.

Ласьне працэс «Грамады» прыпомніў польскаму грамадзянству, што беларускае пытаньне яшчэ ня вырашана і гэная пастанова Суда не павінна звальняць яго ад абавязку паставіць гэта пытаньне на дзенны парадак польскае «народовосьцёвае» палітыкі.

А што датычыць беларускага грамадзянства, дык яно, пераканаўшыся ў безкарыснасьці грамадаўскіх мэтодаў барацьбы за нацыянальныя ідэалы, пацягнуўшых шмат непатрэбных дарагіх ахвяраў, здалее залячыць гэныя раны толькі легальнаю узмоцнянаю працаю ў галіне нацыянальна-культурнага адраджэньня сваей Бацькаўшчыны.

# Аб чым пішуць беларускія газэты.

*„Голас Працы“* ў № 13 у перадавіцы „Дванаццаць гадоў“ абгаварвае справу закончанасьці працэсу над б. пас. Тарашкевічам і іншымі. Ён кажа:

„Па нашаму глыбокаму пераканаńню, не чатыры галоўныя асуджаныя стварылі стотысячную Граммаду, а сама стотысячная Грамада, мала таго—ўвесь беларускі працоўны Народ—высунуў на верх жыцьця названых людзей. Граммаду стварылі тыя абставіны, у якіх знаходзіўся беларускі працоўны Народ Грамада была пробай беларускіх працоўных гушчаў дабівацца палепшаньня свайго быту, некаторай зьмены грамадзка-гаспадарчых абставінаў легальным шляхам, карыстаючыся г. зв. дэмакратычным правам. Так глядзелі і шмат якія з абаронцаў асуджаных. Суд інакш паглядзеў на гэтую справу; Грамада асуджана“.

Далей апісвае апошнія гадзіны і вываз асуджаных з Вільні.

*„Беларускі Дзень“* у № 19 (59) у сваёй перадавіцы „Падумайма аб Фр. Аляхновічу“ піша:

„З імем Аляхновіча заўсёды будзе зьвязаны беларускі тэатр, над якім працаваў Аляхновіч у працягу многіх гадоў. Аляхновіч быў ня толькі артыстым, мастаком і аўтарам сцэнічных твораў, ён быў тэорэтыкам і гісторыкам нашага тэатру. Аляхновіч выгадаваў не адну тэатральную сілу, ставячы і рэжысэруючы свае творы.

Аляхновіч выехаў у Радавую Беларусь зусім легальна, з дазволу польскае і савецкае ўлады. Гэта, аказваецца, згубіла бэднага аўтара „Ценяў“, „На Антокалі“ і інш. твораў.

Пасьля прыезду ў Менск, Аляхновіча зараз арыштавалі, а пасьля, як казаў беларускі пісьменьнік і камуністы Жылуновіч, „пазбыліся“, „вывеўшы ў расход“. Вывад у расход, паводле бальшавіцкае тэрміналёгі, азначае расстрэл, сьмерць. Праўда, Аляхновіча не расстралялі. І для бальшавікоў паказалася зададта агідным забіць выдатнага беларускага пісьменьніка і мастака Але зажыва пахавалі няшчаснага Аляхновіча, саслаўшы яго на 10 гадоў у Салоўкі.

Характарным зьявішчам зьяўляецца тое, што ўсё беларускае грамадзянства і ўся прэса забыліся аб пасаджаным у катаргу драматургу Аляхновічу.

Беларускае грамадзянства не павінна маўчаць, а гаварыць і пісаць аб звальненьні з Салоўкаў Аляхновіча, аб звароце яго да жыцьця і творчасьці, якою можа ён яшчэ ўзбагаціць нашу літэратуру. Звальненьне Аляхновіча зьяўляецца гонарам усяго беларускага грамадзянства".

Зусім слушна. І нам, віленскаму грамадзянству, добра ведама, што Фр. Аляхновіч ніколі ніякай палітыкай не займаўся, а ўсе свае сілы аддаваў толькі літэратуры і тэатру. А што часам, каб друкаваць і выдаваць свае творы, ён за адсутнасьцю сьродкаў, кідаўся і ўправа і ўлева, дык ня ёсьць гэта такім вялікім праступкам, каб марыць яго ў Салоўках.

Каму-каму, а п. Антону Луцкевічу, з якім ён аж да самага свайго выязду заставаўся ў самых лепшых адносінах, трэба ў гэтай справе падаць і свой голас.

Справа агульная і трэба ратаваць свайго пісьменьніка-драматурга і мастака-артысту.

У *„Biełaruskaj Krynicy“* ў № 31 зьмешчана пісьмо пасла Ф. Валынца, які парывае сваю сувязь з паслом Я. Станкевічам, быццам той ня трымаецца свайй праграмы партыі „Беларускага Сялянства і Работніцтва“ пад гаслам якой яны абодвы прайшлі ў Сойм.

Затым *„Сялянская Ніва“* ў № 29 у перадавіцы „Амнэстыя“ піша, што:

„У новым Сойме Беларускі Пасольскі Клюб у першую чаргу падняў змаганьне за шырокую амнэстыю для палітычных вязьняў. На адным з першых пасяджаньняў Сойму паслы Беларускага і Украінскага Клюбу падалі сьпешную прапазыцыю аб прыняцьці закона аб амнэстыі для палітычных вязьняў. За прапазыцыяй Беларускага Клюбу стаяць ня толькі беларускія і украінскія паслы, а мільённыя гушчы Беларускага і Украінскага Народу. Гэтыя гушчы, таксама як і іх праўдныя прадстаўнікі чакаюць павароту вязьняў, чакаюць ні раз іх помачы ў працы пры здабываньні мазольнымі рукамі чорнага кусочка хлеба“.

Далей „Сялянская Ніва“ піша, што Урад пайшоў на спатканьне і ўлажыў праэкт амнэсты, але праэкт ня зусім задавальняючы і калі

„Урадовы праэкт закону аб амнэстыі пойдзе ў Сойм, а там усе стараньні паслоў з Беларускага Пасольскага Клюбу будуць скіраваны на тое, каб гэты праэкт па магчымасьці як найбольш расшырыць, каб Беларускі Народ мог спаткаць гэты закон, як закон аб амнэстыі“.

# Палітычная хроніка.

## ПОЛЬШЧА.

### Спыненьне Польска-Літоўскіх перагавораў у Варшаве.

У суботу 26 траўня літоўская камісія для перагавораў па справам камунікацыі і транзыту выехала з Варшавы, не дасягнуўшы ніякіх вынікаў.

Літоўцы адмовіліся навязаць безпасрэднюю камунікацыю з Польшчаю, запрапанаваўшы з свайго боку камунікацыю праз Латвію і Усх. Прусію, на што не згадзілася польская камісія.

* * *

Чаго, брат, бедаваць
Склаўшы рукі сядзець,
Дух бадзёрны губляць
І аб чымсь лятуцець.
Лепш працуючы пей
Аб штодзеннай бядзе,
Ведай: гора людзей
К добрай долі вядзе.
Ня шукае твой дух
Хай падмогі чужой,
Але творыць лепш рух
СваеЙ моцнай рукой.
Бядаваць, наракаць,
Не павінен зусім, —
Мусіш долю каваць
Ты змаганьнем сваім.
На табе то ляжыць
Абавязак сьвяты —
Свой народ выдабыць
З пад ярма цемнаты.

*Ул. Бернякові́ч.*

## ЗА ГРАНІЦАЮ.

### Перамога дэмакрацыі на выбарах ў Нямеччыне.

20 траўня ў Нямеччыне адбыліся выбары да Рэйхстагу, у якіх атрымалі значную перамогу левыя партыі.

Усяго было падана галасоў 30,592,442 (у 1924 г. — 30,311,935).

Сац.—дэмакраты атрымалі 9.111,438 галас. (1924 г.—7,576,261) і здабылі 152 мандаты (р. 131

Нацыяналістыя — 4,359,586 гал. (6,209,229), атрымалі 73 мандаты (111).

Цэнтр — 3,705,040 гал. (4,118,000), — 63 мандаты (69).

Баварская народная партыя — 936,404 гал. (1,132,000),16 манд. (19).

Партыя Штрэзэмана — 2,669,549 (3,048,000), 44 мандаты (51).

Дэмакраты — 1,492,899 (1,917,000), 25 м. (32)

Гаспадарчая партыя — 1,391,133 (1,268,000) 23 мандаты (21).

Фашыстыя (Гітлероўцы)— 806,732 (998,000) 12 мандатаў (14).

Камуністыя — 3,232,875 (2,711,879), 54 м.(45)

Затым сялянская партыя — 480,615 газ. — 8 мандатаў, абшарнікі — 179,441 гал. — 3 ман., Хрысьціянская нац. сялянская партыя — 770,100 гал. — 10 м., партыя „Права Народу“ — 2 ман., Гановэрская гаспадарчая партыя — 3 м. і партыя Саксонскіх рольнікаў — 1 мандат,

Нацыянальныя меншасьці атрымалі — 70,000 галасоў, не здабыўшы ніводнага мандату дзеля разьбіцьця галасоў. У папярэднім рэйхстагу быў адзін прадстаўнік ад палякоў.

## Адказ на хамскую абразу.

На абразу мяне словам п. Паўлюкевічам заяўляю:

1) што сапраўды ў Інспэктара Труда я заявіў, што ён перабраў грошы і пазаставіў шмат даўгоў;

2) што на абразу ягоную дзеля таго, што ён гэтак часта быў зьневажаямы ў розны спосаб, рэагаваць лічу для сябе магчымым толькі звычайным Судом, што і раблю ў сучасны мамэнт.

*Т. Вернікоўскі*

Рэдактар і Выдавец „Грамадзяніна“.

Вільня 31—V—28 г.

Усяго выбрана 489 дэпутатаў, на 4 менш, чым было раней.

### Зьезд польскіх камуністаў у Бэрліне.

Бэрлінская паліцыя разьвязала 22 траўня зьезд польскіх камуністаў, якія прыбылі з фальшывымі пашпартамі, надаючы гэтак сама фальшывую мэту і характар зьезду. Было арыштавана 26 камуністаў, сярод іх і пасол Сохацкі, які пасьля выдачы яго Соймам суду уцёк за граніцу. Пры арыштаваных знойдзена 25,000 даляраў і шмат пісьменнага матэр'ялу. Сьледствам устаноўлена, што на Бэрлінскім зьездзе выканаўчага камітэту польскай камуністычнай партыі абгаварываўся плян перавароту ў Польшчы пры падтрыманьні і пад кіраўніцтвам нямецкай сэкцыі, камінтэрну.

### Замест Коўны—Вільня.

Літоўскі ўрад выпрацаваў, а прэзыдэнт рэспублікі ўжо падпісаў новую літоўскую канстытуцыю, паводле якой сталіцаю Літвы вызначана... Вільня. Вось дык жартаўнікі... Ці ня дзеля таго гэта можа зроблена, што ў Коўні чуюць сябе небясьпечнымі, бо ня могуць правясьці ў прэзыдэнты места літоўца: кожны раз выбіраецца паляк ці жыд.

### Італьянска-Сэрбскі канфлікт.

У Задары італьянскія фашыстыя напалі на юга-слаўскае консульства, разбурылі і разграбілі памешканьне і ранілі консула. У зьвязку з гэтым у Белградзе і цэлым шэрагу юга-слаўскіх гарадоў адбыліся антыітальянскія дэманстрацыі, проці якіх запратэставаў італьянскі пасол у Белградзе. У адказ на гэта італьянскія студэнты арганізавалі анты-сэрбскія маніфэстацыі у Італіі. Варожыя дэманстрацыі ў Юга Славіі і Італіі ня спыніліся да гэтай пары.

### Падзеі ў Кітаі.

Палуднёвая армія Шэка падыйшла да самага Пэкіна. Дыктатар Паўночнага Кітаю Чанг-Тсо-Лін ачысьціў Пэкін і адходзіць на Мукдэн. Японскія войскі ідуць яму на спатканьне з замерам заняць Пэкін.

# Тутэйшая хроніка.

— **Ваяводзкая інспэкцыя.** У пятніцу п. Ваявода Рачкевіч выехаў на інспэкцыю старостваў.

— **Няма спакою.** 31 траўня ў Рэдакцыю „Грамадзяніна“ зьявіўся А. Паўлюкевіч з Я. Ярошам і на грунце грашовых непаразуменьняў зьневажыў словам Рэдактара п. Т. Вернікоўскага.

Падставай гэтага здарэвьня зьявілася тое, што п. Т. Вернікоўскі, калі быў у справе М. Станкевічанкі ў Інспэктара Працы, дык заявіў тамака, што ад 15. І. 27 да 15. II. 28 Паўлюкевіч пасьля свайго кіраўніцтва пазаставіў даўгоў за падаткі і пэнсыі працаўнікам, як гэта высьняецца Рэвізыйнай Камісіяй, каля 23.000 зл. у гэтым ліку і доўг М. Станкевічанкі.

— **Аб „Беларускай Хатцы“ у Вільні.** Пры пераглядзе Рэвіз. Камісіяй спраў „Бел. Хаткі у Вільні“, высьветлілася, што большасьць сяброў Хаткі, прынятых урадам Паўлюкевіча перад агульным сходам і перавыбарамі ў мінуўшым годзе, былі прынятыя не правідлова, бо прыймаючы іх, урад ня выканаў галоўнага пункту Статуту аб прыняцьці, аласьне: ніводная заява аб прыняцьці ў лік сяброў ня мае патрэбнага ліку паручыцеляў.

Але здаецца і самі сябры зразумелі тое, што былі прыняты толькі для л ку і для мамэнту выбараў, бо прайшоў ужо год і ні адзін з іх ня толькі ня выявіў сябе ні складкамі, ні якой колечы дзейнасьцю, але на‘т ні разу не паказаўся ў „Хатцы“, а дзеля гэтага быццам аўтаматычна самі сябе завесілі ў чыннасьці. А калі дадаць да гэтага, што яшчэ па іншых прычынах аказалася некалькі сяброў завешанымі, дык, як відаць, „Беларуская Хатка“ апынулася ў стане блізкім да ліквідацыі.

Яшчэ трэба адзначыць, што з уходам п. А. Паўлюкевіча на Хатку абрушыліся ўсе неаплочаныя ім падаткі за 1927 г., як прыкладам, у Ізбу Скарбовую каля 4 700 зл., у Касу Хворых каля 6,000 зл. у фонд безработных і іншыя, што складае досіць значную суму, дык зусім зразумела, што ўжо гэты „паўлюкевічаўскі спадак“ аканчальна забіў Хатку і пытаньне аб спыненьні яе чыннасьці сапраўды на чарзе.

А шкада, што і Т-ву „Беларуская Хатка у Вільні“ прыдзецца, відаць, перайці ў гэтакі самы нячынны стан, у якім знаходзіцца і „Клюб Беларускай Інтэлігэнцыі“!

— **Патрэба рэарганізацыі Камітэту па справах гмінных самаўрадаў.** Дзеля таго, што сучасны Камітэт пад старшынством п. Я. Яраша не выяўляе аніякае дзейнасьці і амаль што страціў сувязь са сваімі сябрамі — Сэкрэтар Камітэту п. А. Канапацкі, будучы ў Маладэчне на зьездзе Т-ва „Прасьвета“, у гутарцы з некалькімі раднымі беларусамі і войтам Маладэчанскай гміны парушыў гэтае пытаньне. З гэтых гутарак выясьнілася, што як газэта „Беларускі Радны“, гэтак і істнаваньне гэтага Камітэту ёсьць надта пажаданымі і вымагаюцца на‘т жыцьцёвымі і службовымі патрэбамі, але-ж пэўне пад варункам жывой сувязі з раднымі і гмінамі. А дзеля гэтага ў першую чаргу высоўваецца патрэба стварэньня акружных камітэтаў і заняцьце кіраўнічых становішчаў у іх асобамі безпасрэдня зьвязанымі з гмінамі, маючымі беларускую перававу і фактычна пра-

# Карусь Каганец.

*(да 10 угодкаў сьмерці).*

Ня скончылі яшчэ гудзець жалобныя званы другіх угодкаў сьмерці К. Сваяка, як наступаюць ізноў угодкі, у гэты раз дзесятыя, сьмерці іншага беларускага пісьменніка, аднаго з найстарэйшых песьняроў беларускага адраджэньня Каруся Каганца, якога праўдзівае імя было — Казімір Кастравіцкі.

Памёр Каганец у фальварку Юцкі (каля Кайданава) 20 траўня 1918 году, праз няпоўныя два месяцы пасьля таго, як зьдзейсьнілася лятуценьне яго жыцьця, дзеля якога ён аддаў усе свае багатыя інтэлектуальныя сілы. Беларусь вуснамі сваіх прадстаўнікоў была абвэшчана незалежнай. Беларусь была, калі выразіцца славамі Каганца — „паднята“.

Але пісьменнік, дажыўшы да першых рэальных вынікаў працы беларускіх адраджэнцаў, сярод якіх сам займаў пачэснае мейсца, не дажыў аднак да другога акту трагэдыі — утраты незалежнасьці Беларусі. Яшчэ не прайшло і двух месяцаў, як у беларускіх часопісах таго часу зьявіліся яго некралёгі.

У беларускім адраджэнскім руху Карусь Каганец прыймае выдатнае ўчасьце як пісьменнік, публіцыста і дзеяч з самага яго пачатку. Больш таго, ён зьяўляецца адным з піонэраў гэтага руху і, калі можна гэтак выразіцца, адным з закладчыкаў беларускае незалежніцкае ідэолёгіі ўзгадаваны на народніцкай літаратуры 70- і 80 гадоў мінуўшага стагодзьдзя, у пару, калі чуваць яшчэ было эха лёнданскага набату Гэрцена і Бакуніна. Знаходзячыся ў таварыстве моладзі, ахопленай ідэямі рэвалюцыйнага рамантызму пад уплывам тае самае загранічнае прапаганды, Карусь Каганец, пачуваючы сябе беларусам, пачынае „прывіваць“ духоўнае багацьце агульна-расейскага вызваленчага руху на беларускі грунт. Тутака Каганец вуступае ўжо як пісьменнік, маючы за сабой некаторае імя з папярэдніх працаў у расейскіх часопісах 90 гадоў, быў ня толькі як пісьменнік, але як змагар за лепшую долю роднага народу. Яшчэ будучы ў гімназіі ён, ня гледзячы на страшэнны рэжым пары аляксандраў-

пуючымі ў гэтай гміне, а не папяровымі кіраўнікамі, якія з упадкам п. Паўлюкевіча аказаліся непатрэбным балястам.

**— Зьмена Рэдактараў.** Стаўлянік п. А. Паўлюкевіча—зіц-рэдактар часопісі „Беларускі Радны" п. Я. Ярош адыйшоў, а замест яго рэдактарства „Беларускім Радным" абняў п. Т. Вернікоўскі.

**— Аб утварэньні незалежнай беларускай Царквы.** Беларуская праваслаўная хадэцыя пастанавіла распачаць стараньні дзеля ўтварэньня у Вільні незалежнай беларускай праваслаўнай Мэтраполіі. Думку гэтую горача падтрымоўвае беларускае духавенства.

**— Яшчэ ў справе беларускіх казаньняў.** Парафіяне Жодзішскай парафіі паслалі да папскага нунцыя ў Варшаве просьбу аб увядзеньні у Жойдзішскім касьцёле беларускіх казаньняў.

**— Матура ў беларускай мове.** Куратар Віленскае Школьнае акругі вызначыў для беларускай гімназіі ў Вільні экзамінацыйную камісію, якая будзе экзамінаваць у беларускай мове. Гэткім чынам у гэтым годзе вучні атрымаюць у першы раз беларускую матуру і змогуць з ёю уступіць ў польскія унівэрсытэты, не патрабуючы выяжджаць заграніцу.

**—Спэктакль у Куранцу.** 4 чэрвеня на другі дзень св. Тройцы адбудзецца ў Куранцу спэктакль, наладжаны трупаю Т-ва „Прасьвета". Пасьля спэктаклю будуць скокі.

**— З'езд Т-ва Беларускае Школы у Баранавічах.** 27 траўня у Баранавічах адбыўся паветовы з'езд Т-ва Беларускай Школы з наступным парадкам дня: 1) Даклад прадстаўніка галоўнае Управы аб працы Т-ва Бел. Школы; 2)Выбары Баранавіцкай Акружной Управы; 3) Арганізацыя народных дамоў і бібліятэк — чытальняў. 4) Бягучыя справы.

**— Ліквідацыя гурткоў Т-ва Беларускай Школы у Вялейскім павеце.** Вялейскі староста пастанавіў зьліквідаваць з прычыны недакладнасьцяў у рахунковасьці гурткі Т-ва Беларускай Школы у Вялейцы, Асіповічах, Порсе, Каловічах і Жоўтках Вялейскага павету. У гэтай справе рабіў інтэрвэнцыю у Вялейскага старосты пасол Ф. Валынец.

**— Водгукі забастоўкі у Беларускай Наваградзкай Гімназіі.** Кіраўніцтва Беларускай Гімназіі у Навагрудку, прыняўшы пад увагу просьбу беларускіх пaслоў, згадзілася прыняць з новага году звольняных 50 гімназістаў, ініцыятараў школьнай забастоўкі.

**— Ліквідацыя Т-ва Помачы Пацярпеўшым Ад Вайны.** 31 траўня адбудзецца ў памешканьні Віл. бел. гімназіі агульны сход сяброў Беларускае Т-ва Помачы Пацярпеўшым Ад Вайны з мэтай перадачы функцыяў яго і маемасьці Бел. Дабрадзейнаму Т-ву.

**— Вечарына у беларускай гімназіі у Наваградку.** У чацьвер 26 траўня ў Навагрудзкай беларускай гімназіі адбылася вечарына спэктакль. Пастаўлена была драма У Галубка — „Апошняе спатканьне." Гралі вучні і вучаніцы гімназіі, якіх сабраўшаяся публіка горача вітала воплясками.

**— Звальненьне з вастрогу сяброў Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі.** Звольнены з вастрогу за каўцыю наступныя сябры Бел. Х-Д: гр. Дварэцкі, Булыга і Краўчонак.

**— „Nasz Kraj" аб Луцкевічу і Астроўскім.** Орган „Klubu Pracy" на Віленшчыну

---

скай рэакцыі, калі назвацца беларусам магла толькі адзінка, маючая вялікую цывільную адвагу, калі наагул слова беларус ня ўжывалася ў слоўніках — выкідываемае цэнзурай, — ня гледзячы на гэта Каганец наадварот — падчырківае сваю беларускасьць, носіць дэманстрацыйна беларускі кажух і боты, гудзе па беларуску на сходках і ў сьценах гімназіі і піша беларускую граматыку.

Па выходзе з гімназіі К. прыймае удзел у агульна-рэвалюцыйным руху ў Расеі, супрацоўнічае ў розных нелегальных у той час часопісях зароўна маскоўскіх, як і беларускіх і некаторыя свае творы друкуе асобнымі кніжкамі і брашурамі. Урэштце ўжо ў 1902 годзе прыймае ўдзел у закладзінах першае беларускае палітычнае арганізацыі Беларускай Рэвалюцыйнай Грамады, а пазьней Бел. Сацыялістычнай Грамады.

Творчасьць Каганца надта рознародная, залежна ад пары. Спачатку апрацоўка ў лірычнай форме беларускіх народных легендаў і казак (Скрыпач і Ваўкі, Прылупкі), вершы на тэмы беларускай мінуўшчыны (Нёман, Гадка пра Галубка), далей апавяданьні папулярна-палітычнага зьместу — дзе пісьменнік у мастацкіх формах малюе цяжкую долю беларускага мужыка пры паншчыне („Пра пана Ленскага" і „Царская служба"), апавяданьні гістарычнага характару (Хэлера 40 гадоў, Навасадзкае замчышча), урэштце найбольш вядомыя шырокай публіцы драматычныя творы („Модны Шляхціц" „У іншым шчасьці няшчасьце захавана", „Двойчае прапілі" і інш.).

Усе творы Каганца напісаны чыстай народнай мовай, бяз прымясі чужых выразаў і зваротаў, гэтак часта спатыкаемых у іншых пісьменнікаў, — і з гэтага боку зьяўляецца багатым укладам у беларускую літэратуру. Ня шмат хто з ведаўшых Каганца асабіста жыве цяпер, — сярод іх трэба назваць імя Уласава. Добра-б было, каб паважаны б. сэнатар азнаёміў бліжэй беларускае грамадзянства з асобай Каруся Каганца, як грамадзкага дзеяча і пісьменніка, бо да гэтага часу ня выдана нават біографія памёршага, калі ня лічыць кароценькіх зацемак надрукаваных у год сьмерці ў газэце „Вольная Беларусь".

*Вуэс.*

„Nasz Kraj“ у артыкуле аб працэсе „Грамады“ між іншым піша: „Апраўданьне Луцкевіча і Астроўскага ўказвае на тое, што права і сумленьне наша ня бачыць віноўных сярод беларускіх нацыянальных дзеячоў, якія галоўнаю мэтаю маюць: дабрабыт, культуру і шчасьце свайго народу.

За гэткіх людзей заўсёды лічылі Луцкевіча і Астроўскага. Такімі прадставіў іх і доўгі ход суда, як абвінавачаных у працэсе „Грамады“.

**— Канфіската „Голасу Працы“.** 30 траўня паліцыйныя ўлады канфіскавалі орган беларускіх радыкалаў „Голас Працы“ за зьмяшчэньне цэлага шэрагу артыкулаў, у зьмесьце якіх адміністрацыйныя ўлады знайшлі адзнакі праступкаў, прадбачаных у § 1 загаду Прэзыдэнта Рэспублікі аб прэсе.

**— „Сялянская Ніва“ пад судом.** 4 чэрвеня ў Віленскім Акружным Судзэ будзе разглядацца справа рэдактара „Сялянскай Нівы“ Гэрасімчука, абвінавачанага па § 129 К. К.

**— Коопэратыўны рух у Лідзкай акрузе.** 20 траўня ў Лідзе адбыўся з'езд прадстаўнікоў коопэратываў, на якім вядомы беларускі коопэратар гр. Буцька злажыў справаздачу аб коопэратыўным руху ў Лідчыне. Усяго у Акрузе ёсьць 26 коопэратываў з 28.548 сябрамі. Абарот усіх коопэратываў у 1927 годзе быў роўны — 1.614.836 зл. Уласных капіталаў маюць коопэратывы 122. 796 зл.

**— Малочная коопэрацыя.** У вёсцы Кастравічы Слонімскага павету 20 траўня адчыніўся малочны коопэратыў.

**— 100.000 зл. на адбудову зьнішчаных гаспадарак у Наваградчыне.** Міністэрства Грамадзкіх работаў асыгнавала 100 000 злотых на адбудову зьнішчаных у часе вайны гаспадарак у Наваградзкім ваяводстве.

**— Будова шосы Наваградак -- Баранавічы.** Наваградзкі павятовы аддзел распачаў ужо будову шосы паміж Наваградкам і Баранавічамі. У бягучым годзе будзе пабудована 10 клм. Кошты усяе будовы перавышаюць 500 тысячаў злотых.

**— Яшчэ адна бура у Стаўпецкім павеце.** 25 траўня над вёскай Сьнерынава, Стаўпецкага павету праняслася вялізарная бура, прыпыніўшая шмат шкоды жыхарству. Зьнішчана 120 будынкаў, сады і пасевы на палёх. Бура павырывала шмат дрэваў у блізкім лесе. пры гэтым зваліўшаеся дрэва прыдушыла селяніна Кіселя.

**— Новыя беларускія кніжкі.** „Сымон Музыка“ — поэма народнага песьняра Якуба Коласа. Выданьне выдавецкага т-ва „Пагоня“.

„Stary Zamak“ — вядомага расейскага пісьменьніка В. Неміровіча-Данчэнкі. Пераклад Б. Ст. Выданьне „Biełaruskaj Krynicy“.

„Байкі, гумар, сатыра“ — Б. Друцкага-Падбярэскага. Выданьне „Віленскага Выдавецтва“ Б. Клецкіна. Зборка баек Крылова і іншых байкапісцаў у вольным перакладзе аўтара кніжкі зьяўляецца вартасьпёвым укладам у беларускую літэратуру. Асабліва, калі прыняць пад увагу добрае апрацаваньне і пекны гукавы эфэкт зароўна баек, як і гумарыстычных і сатырычных вершаў. Частка гэтых баек ужо была друкавана ў часопісі „Бел. Слова“, але выданьне яе асобнай кніжкай дасьць магчымасьць чытаць іх тым, для каго яны ўласьціва былі напісаны — дзецям. Трэба спадзявацца, што кіраўніцтва беларускіх гімназіяў і пачатковых школаў увядзе гэту кніжку як падручнік. Аўтару застаецца толькі пажадаць зьвярнуць больш увагі на чыстату беларускае мовы і імкнуцца ня ўжываць русыцызмаў ці палёнізмаў, як напр.: „пустая“ замест „парожняя“, „папаў“ замест трафіў і гэт. далей.

# Ой Марына, ой дзяўчына!

*(Крыху ўспамінаў заместа фэльетону).*

Калі войт Палачанскае гміны Мацей Пятровіч „шандарахнуў“ сваім пісьмом, як аглобляй, па галаве ў неспадзёўку па Паўлюкевічу і ягоных шматлікіх арганізацыях, і калі ён, пералічыў склад „паўлюкевічскай банды“, якая, як ён пісаў, працуе „на бэрлінскія і ангельскія грошы“, — ён у сваім пісьме ўспомніў і аб Мар'і Станкевічанцы.

— Апамятайся дзяўчына! — пісаў ён — апамятайся дзіця Народу! Паглядзі, з кім ты і куды ідзеш?!..

Гэны „апель“ „пераканаўшагася“ да душы Мар'і Станкевічанкі, на якую пакладаў усе надзеі Паўлюкевіч у сваей выбарчай акцыі, быў апошнім пяруном сярод тых хмараў — аднадзёнак і адозваў, — якія выпушчаліся Міткевічам, Плаўсюком і інш., каб разьбіць ягоны „цэнтр“.

Падняўся перапалох...

— Панімаеце-лі! — ўляцеў у кабінэт „галоўны“, пачырванеўшы як індык: Як возьме яна, дый як „плясьне“ нас у газэтах...

— Капут будзе -- перабіў „галоўнага“ ягоны „дарадчык“.

— Што?! што ты сказаў?! — забегаў неспакойна маленькімі вочкамі „галоўны“...

— Капут будзе! За ёй Народ!..

— Ага-,ага... за ней Народ! — сьцьвердзіў і ейны старшыня...

— Народ, народ... — занэрваваліся сэкрэтары —

— Якога чорта за ёй Народ! — аж саскочыў з мейсца адзіны з іх — дый і ня „плясьне“ яна зусім... яна дзяўчына хітрая!...

— Ого! Сама сабе „на ўме“! Вось у „Прасьвеце“ лічыцца з 1926 году, а ці залажыла хоць адзін гурток?! — дадаў другі...

— А „как-же“ не залажыла?! — заступіўся за яе старшыня.

— **Новая беларуская кніжка.** Др. Б. Туронак — Гігіена узгадаваньня дзіцяці. Выдавецтва „Biełaruskaj Krynicy". Цана 30 гр.

— **„Хрысьціянская Думка."** Выйшаў з друку чарговы (10-ы) нумар часопісі „Хрысьціянская Думка," Зьмест: I. В — Пазволь Маці прывітаці; I. М. — Каталік з назовы; Д. Аніська — Чым яна жыве? Кс. Др. I. Р. — З гісторыі хрысьціянскай апалёгэтыкі; В. Р-ка — Чаму я стаўся уніятам?; I. С. — Ружанец; З газэт, з рэлігійнага-касьцельнага жыцьця, усячына хроніка, календарык, паштовая скрынка і жарты.

— **Вынікі зямельнае рэформы ў Польшчы.** На аснове даных апошняга нумару „Roczn. Statyst. Rzecz. Polsk. 1927" аб выніках зямельнае рэформы ў Польшчы ў 1924—5 гадах справа выглядае гэтак: у 1924 годзе распарцэлявана ўва ўсей Польшчы 106.993 гэктары зямлі, з гэтага 54.363 гэктары пайшло на утварэньне 5710 новых гаспадарак, а рэшта 52.630 гэктараў— на папаўненьне ужо істнуючых сялянскіх гаспадарак. У 1925 годзе распарцэлявана 100.433 гэктара, з гэтага 56.746 гэктараў пайшло на ўтварэньне 5.335 новых гаспадарак і 43.687 гэкт. на папаўненьне ўжо істнуючых сялянскіх гаспадарак. З усяе расцарцэляванае зямлі прыблізна палова была падзеляна прымусова зямельнымі ўправамі, а рэшта з уласнае волі земляўласьнікаў.

Наймацней ахоплены парцэляцыяй беларускія ваяводзтвы (Віленскае, Навагрвдзкае, Беластоцкае і Палескае), далей ідзе Пазнаншчына, Варшаўшчына, Люблінщчына і Валынь. Найслабейшай парцэляцыя была ў ваяводзтвах Львоўскім, Тарнапольскім, Станіславаўскім і Кракаўскім.

# Карэспандэнцыі.

## Трывога.

(Маладэчанскі павет.)

Вясна. Усё будзіцца да жыцьця, усё весяліцца і радуецца. З кожным днём вока селяніна радуе падымаючаяся зялёная траўка і азіміна. Праз доўгую раньнюю зіму выкарміў ён і саломку і сена і збожжа. Усе толькі чакалі дожджыку, каб змыў з усяго зімную смугу. Аж нарэшце і ён прышоў і ўсё, як кажуць, зашумела. Змыў дождж смугу, але змыў разам і надзею нашых земляробаў, з трывогай чакаўшых гэтага дажджу і прыглядаўшыхся да свайго першага прадукту, першай і апошняй надзеі на цэлагодні дастатак-азіміны.

Справа ў тым, што, як усе ведаюць, сьнег сёлетняй зімой выпаў на зусім сырую і незамерзшую зямлю і ўжо болей ня зышоў. Вось і здарылася тое, чаго так усе баяліся праз усю зіму — азіміну падпарыла. Падпарыла ня гледзячы на тое, што ў часе марозу выганялі на поле скаціну і таптали сьнег, баранавалі яго і наагул ужывалі ўсе спосабы, каб адвясьці гэту бяду. Нічога не памагло. Падпарыла ня толькі азіміну, але і канюшыну і адным словам усё, што магло гэтага пабаяцца.

Але да дажджу, калі яшчэ і на здаровых лістох азіміны ляжала зімняя смуга, гэта ня было так заметна, і земляроб яшчэ з надзеяй глядзеў на сваё поле, думаючы — а можа аджыве, а можа яшчэ ня так страшна. I вось змыў дождж і смугу і надзею і апусьцілася галава ў селяніна, а з грудзей яго вырваўся цяжкі ўздох.

I сапраўды, паглядзеўшы на поле здалёку і то кожны селянін уздыхне, бо ўжо здалёку можна угледзіць вялікія кавалкі пустой зямлі,

---

— Што? Залажыла?! Хэ, хэ, хэ! залажыла?! Чулі — яна гурткі залажыла?! А дзе?! А калі?!..—

— Вось табе маеш?! А ў Гародзьках, а ў Вішнёве?! — умяшаўся „дарадчык"

— У Гародзьках? хэ, хэ, хэ... ў Гародзьках?! Добры гурток — сваей радні панапіхала...

— А Вішнёйскі, дык адразу і разваліўся...

— Але ўсё-ж такі залажыла — і ейны Старшыня абвёў вачыма прысутных.

— Але калі? калі?!.. — ня ўнімаўся пэршы сэкрэтар.

— Калі? Як грошы далі, дык і залажыла...

— Ну годзі! — спыніў спрэчкі „галоўны"— ня ў гэтым справа. Трэба тутака разабрацца — „плясьне" яна, ці ня „плясьне"? А калі „плясьне", дык якія прыняць меры... Слова належыць табе — зьвяртаецца ён да „дарадчыка"...

— Я лічу, што яна павінна адгукнуцца на гэтае пісьмо Пятровіча, бо за ёй Народ... і як мы разам з ёй творым „шаснастку", дык і я мушу быць салідарным. А калі ўжо аб гэтым пойдзе, дык папераджаю Вас паны, — тутака ён абвёў усіх вачыма і стукнуў кулаком па стале—і я Вас усіх плясну... Бо я адзін тут сярод Вас „патэнтаваны" беларус.

— Што?! —І забегалі пужліва вочкі „галоўнага", а іншыя заварушыліся...

—Ня „што", а годзі... да-а-вольна [гэтага, досыць!..

Запанавала ціша і толькі відаць было, як ейны Старшыня задаволяна хіхікаў сабе пад нос. Галоўны апамятаўся першым, міргануў сэкрэтару, сэкрэтар шапнуў нешта дарадчыку і той, адкашляўшыся, успакоіўся.

— Слова за Вамі — махнуў рукой „галоўны" да ейнага Старшыні...

— Я магу сказаць, гаспада, што з ней трэба лічыцца... Вы наагул не лічыцеся з некаторымі асобамі, вы забываецеся, што я ейны Старшыня, а тым часам...

— Досыць! — перапыніў яго „галоўны"— старыя песьні! Ізноў скажаце, што мы Вас іг-

рэзка выдзяляючайся паміж зелі. Але прыглядзіўшыся бліжэй уздыхнуў-бы і кожны чалавек, спачуваючы цяжкой працы земляроба, бо апрача гэтых вялікіх кавалкаў пустой зямлі заўважыў-бы і шмат--шмат маленькіх, навэт такіх, як даланёй закрыць, дзе памёршая збажынка параскідала свае лісткі ў ваўсе бакі і моцна прыліпла да зямлі. Позьняя сяўба, асабліва на бульбовішчы, можна сказаць зусім прапала, а зямля там неяк ня звычайна патрэскалася.

Адным словам, калі навет праз усё лета нішто ўжо не пашкодзіць азіміне і то ураджай яе будзе на палавіну меншы, як звычайны. Добра-ж яшчэ таму, у каго засеяна шмат, але як дробныя земляробы пражывуць? Скуль узяць на недахоп хлеба і розныя штодзенныя выдаткі? Заработкаў няма і галовы сялян спускаюцца ніжэй і ніжэй. *Селянін.*

## Гаротнае жыцьцё.

Сяляне на Беларусі — бедныя, якім зачынены дзьверы ўсюды; мала маюць зямлі, і дзеля гэтага і хлеба. Галовамі сяляне-беларусы круціць ня ўмеюць, як жыды ці іншыя народы, а яны прывыклі да аседлага жыцьця, цяжкой працы-земляробскай.

Шмат я дзе чытаў і бачыў на свае вочы, што наша Бацькаўшчына адстала ад другіх народаў сваей культурай і гэта праўда; але чаму-ж яна не адстане, калі ў нас толькі 4 гімназіі дый і тыя чуць ліпяць, а пачатковых школаў зусім няма, а ў іншых народаў толька міла глядзець і чуць, колькі рожных школаў. Чуў я так сама што вучыцялі наракаюць на сялян-бацькоў чаму ня пускаюць дзяцей у гімназіі і завуць іх несьвядомымі. Але, паночкі вучыцялі, зьвярніце ўвагу на нашу беднасьць! Не так лёгка вучыць, як гаварыць. Усім-жа вядома, што гімназіі прыватныя, а ўрадовай ніводнай няма. Трэба-ж плаціць за навуку, за кватэру, за кнігі дый за розныя прылады школьныя. Апроч гэтага ўсяго трэба-ж і вопратку трошкі чысьцейшую мець, дый і лапці-ж не абуеш, а трэба якіясь боты чы чаравічкі.

Нашто казаць; дзеці на Беларусі здольныя і кемные, але дзе-ж яна там здольнасьць вылязе, калі трэба ня толька бацьку, але і дзіцяці думаць аб розных недахватах.

Заработкаў ніякіх няма, а тут трэба розныя падаткі плаціць, дзяцей вучыць дый і хлеба прыкупіць, а ўзяць няма скуль... з пальца ня выламіш...

Хочацца і дзетак вучыць і самому трошку ляпей жыць і толькі станеш трошку падымацца, як ні скуль налазіць бяда, або з сям'і хто захварэе, ці памрэ, або скаціна падзе. Вось тагды ўзноў запануе над ўсей хатай гора.

І калі ўжо дачакацца тае пары, каб хоць трошкі палепшала, каб падаткі зьменшылі, школы паадчынялі родныя беларуска-ўрадовыя дый і зямелькі па крыху далі..

Шмат хто гневаецца на вёскі, сялян, асабліва палітыканы на нашу несьвядомасьць. Але яны больш несьвядомые, бо паразьбіваліся на партыі і глядзяць кожны, каб толькі сабе. А каб былі і жылі згодна, дый аднаго дамагаліся, дык бы чаго нібудзь дачакаліся-б. А то грызуцца, як каты „хоць сам ня гам, але і другому ня дам“ *М. Бяроўка*

## З нашага жыцьця.

(Опса, пав. Браслаўскі).

Гміна Опская ёсьць яшчэ вельмі цёмная. Няма тут беларускіх культурна—прасьветных арганізацыяў. Ёсьць на гэта мейсца польскія, каторыя ня маюць пасьпеху сярод нашых сялян, Нашыя сяляне замест, каб запісвацца ў якія-небудзь арганізацыі, ды чытаць газэты—іграюць у карты, ды п'юць нашага ворага — гарэлку. А гэтая гарэлка сьцягвае на нашага селяніна розныя беды ды няшчасьці.

Дык сяляне! Каліж вы кінеце піць свайго ворага—гарэлку? Сяляне, гміны Опскай, калі-ж вы возьмецеся за карысную працу?! *Опскі*

---

наруем... Трэба прыходзіць у свой час, як усе і працаваць, тады з Вамі і лічыцца будзем, а цяпер бліжэй да справы... Хто яшчэ што хоча сказаць?..

— Ну гэта мы яшчэ ўвідзім — прабурчэў ейны Старшыня і ўсеўся...

— А мы хочам сказаць — падняліся сэкрэтары...

— Вось я ёсьць пэўным — пачаў першы — што яна і ня плясьне, а на'т і не адгукнецца зусім, а дзеля чаго?! А вось — па-першаму: перагаворы яе са „спадаром“ відаць скончыліся не на яе карысьць... Па-другому: тое, што яна пужала нас, быццам нехта, за нешта прапануе ёй 5000 — гэта ерунда і ёсьць толькі ейнай пахвальбой каб прыдаць сабе цану. Па-трэцяму — кандыдацкія сьпіскі ўсюды, апрача нас, ужо ўлажыліся, дык зразумела, што толькі ў нас яна можа яшчэ папасьці ў кандыдаткі,дык...

— Садзіся! Я закончу — пярабіў „галоўны“ — па-пятаму, паночкі, яна ў мяня сядзіць вось дзе — і „галоўны“ папляскаў па кішэні — пэнсыя, паночкі, яшчэ ёй не заплачаная. І будзе сядзець яна ціханькая і спакойненькая...

— Правільна! Правільна! — пачуліся галасы... — У гэты час паказаўся ў дзвярох Соцкі, які шапнуў сэкрэтару, што ўжо гатова і ўсе зразумелі, што трэба ізці рабіць „настрой“...

І яна ня пляснула... Заклік Мацея Пятровіча — ейнага суседа па вёсцы, не дапяў да душы дзіцяці Народа і не знайшоў патрэбнага водгуку.

Асабістыя інтарэсы перамаглі, і Мар'я Станкіевічанка маўчала, як у рот вады набраўшы...

Ой Марына, ой дзяўчына!.. *Г—ка.*

## Патрэбы вёскі.

(Наваградчына).

Шмат у газэце пісалася аб разных справах, аб балячках нашага сялянскага жыцьця на вёсцы, але на жаль мала зварачваецца увагі на каапэрацыю.
А тымчасам гэта ёсьць для нас вельмі важная справа, бо-ж просты шлях ідзе праз каапэрацыю да ашчаднасьці, а праз ашчаднасьць—да культуральна-гаспадарчага вызваленьня. На вёсках каапэратываў нігдзе нямя зусім. А гэта магло бы прынясьці для сялян вялікую карысьць, бо замест таго каб бегчы па газу, соль ці мазь да мястэчка, адлеглага вёрст 5—6 ад вёскі, дык можна было-б купіць у вёсцы, а як у каапэратыве, дык яшчэ і танеи.

Праўда ў некаторых вёсках маюць крамкі жыды, але яны так дзяруць скуру з селяніна, што чалавек аж за галаву хапаецца, параўнаўшы яго цэны з мястовымі.

Але за гэта жыды і багацеюць хутка. Глядзішь, які небудзь Шлёмка купляе па вёсках ганучы гадоў са тры, потым адчыніць крамку ў вёсцы, а праз гадоў чатыры ужо будуе сабе ў суседнім мястэчку вялікі дом і закладае склеп. Але наагул узяць, дык наш селянін ня такі як жыд, ён ня умее так пражыць, так зьбіраць грош да гроша і болей ў крамцы за дзень зьесьць хоць-бы семячкаў ці цукеркаў, як утаргуе. Каапэратывы у мястэчках стаяць вельмі блага. Селяне па большай частцы адносяцца да каапэратываў упрост па зьверску.

Так, напрыклад, каапэратыў аднаго мястэчка Стаўпецкага павету прывёз для прадажы два плугі, але сяляне іх укралі.

Коопэратывы ў мястэчках яшчэ больш важныя затым, што у суботу жыдом таргаваць ня можна і дзеля таго ў суботу ў іх нічога ня купіш, а як ёсьць каапэратыў, дык усё можна купіць у каапэратыве.

Яшчэ ў 1922 годзе ў нашай мясцовасьці былі шмат дзе пазакладаны каапэратывы, але дзякуючы нядобрай гаспадарцы ўсе яны альбо пагінулі, альбо знаходзяцца ў надта цяжкіх матэр'яльных варунках.

Трэба, каб каапэратываў па вёсках і мястэчках закладывалася як найбольш. Ёсьць беларускія культурна-прасьветныя таварыствы, але дзеля таго, што асобы, якія працуюць у гэтых таварыствах, зьяўляюцца адначасна не апалітычнымі, а абавязкова займаюцца якойнебудзь працай у палітычным напрамку, дык культуральна-прасьветная праца адыходзіць на задні плян. Толькі вось у мінулым годзе Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры зааргані заваў каапэратыўныя курсы і выпусьціў у мястэчкі і вёскі кадры больш менш сьведамых у гэтай справе (каапэрацыі) людзей. Мне здаецца, што гэтым-бы павінна заняцца таварыства „Прасьвета", бо-ж справа каапэрацыі належыць да культуральна-прасьветна-гаспадарчых спраў. Трэба закладаць каапэратывы, супалкі малачарскія, яйчарскія і інш.

На правінцыі, напрыклад, дзесятак яек каштуе 60 гр., а ў Вільні 1 зл. 30 гр.

Яно ведама, каб добра была зарганізавана яйчарская супалка, дык вясковыя кабеты, маючыя часам па 20—30 курыц, маглі бы добра зарабляць. Узяць, напрыклад, Пазнаншчыну, дзе каапэрацыя пастаўлена добра, дык там рэч зусім іншая і жыд ужо ў вёску ніколі не загляне ў гандлёвых справах.

Тое самае і з маслам. Напрыклад, на правінцыі бывае масла ў два разы танейшае, чым у Вільні. Дык вось вясковыя гаспадары павінны гэта мець на ўвеце і аддаваць масла аднаму чалавеку, які-бы павёз у места (напрыклад у Вільню) і прадаў яго.

Дык вось, працы ёсьць у гэтым напрамку шмат, аднак беларускія сьведамыя адзінкі чамусьці мала гэтым цікавяцца.

Беларускія прасьветна-культуральныя таварыствы служаць экспозытурай розных палітычных кірункаў і на гэта увагі не зварочваюць.

Прасьвета павінна рашуча заняцца гэтай справай пасьля чысткі такіх тыпаў, як Станкевічанка і іншыя ей падобныя і зьмявіць сваю палітыку у больш культуральны бок. Гэтага чакае ад Прасьветы Беларускі Народ.

*Стары селянін.*

## Да працы, беларусы!.

(в. Воўкоўшчына, Маладэчанскага пав.) Сумна жывецца ў гэтыя часы ў нашай і іншых вёсках каля нас, Дзе ні глянеш нідзе не забачыш хаця-бы крыху сваей роднай культуры. Праўда, што народ каля нас бедны, а да таго яшчэ ня пісьменны, мала цікавіцца сваей роднай культурай. Ня відаць, каб хто-небудзь узяў у рукі і прачытаў беларускую газэту, а калі сам ня можа, дык хацябы паслухаў таго, хто можа чытаць, Унас гэта чамусь-та зусім ня водзіцца. У нядзелю ці ў якое другое сьвята зьбяруцца часам некалькі мужчын старыкоў, пагутараць аб гаспадарцы, пабачуць, як моладзь забаўляецца скокамі, дый разойдуцца па сваіх хатах.

Калі забачыш, як у іншых вёсках закладаюцца аддзелы „Прасьветы", адчыняюцца бібліатэкі - чытальні, ладзяць спэктаклі, складаюць дэкларацыі на беларускія школы, дык ажно цяжка і смутна робіцца на душы і здаецца шмат зрабіў-бы на ніве роднай асьветы і культуры, але на гэта трэба шмат працы і помачы ад грамадзянства якое, нажаль, сьцюдзяна адносіцца ў нас да гэтай працы. Калі прышлося залажыць у нашай вёсцы аддзел „Прасьветы", дык цяжка было знайсьці патрэбную лічбу людзей. Аднак усё-ж такі знайшлося некалькі грамадзян, каторыя адчуваюць гэтае цяжкае становішча, што мы далёка адстаўшы ад іншых на ніве роднай культуры і пастанавілі узяцца за працу пашырэньня свайго роднага слова.

Дарагія браты беларусы!! Не патрэбна нам лезьці ў палітычныя партыі, каторыя

толькі глядзяць на сваю ўласную карысьць. Досыць нам гэтае партыйнае грызьні.

Трэба нам далучыцца да такіх правадыроў, каторыя імкнуцца і працуюць над пашырэньнем асьветы і культуры і ўсім, як адзін, ісьці да сваей роднай асьветы легальна і адкрыта.

Дык закладайце-ж адзелы „Прасьветы", закладайце бібліатэкі, складайце дэклярацыі на беларускія школы, пашырайце і чытайце сваё роднае беларускае слова, ня гледзячы на тое, што вам часта адмаўляюць ў нашай просьбе. Калі нам адмовяць адзін раз, трэба прасіць другі, трэці раз—ўсё-ж такі калі небудзь і з намі стануць лічыцца, калі толькі мы будзем трэбаваць справядліва і легальна, і дадуць нам прасімае.

Грамадзяне беларусы! кожны з Вас павінен помніць, што ён Беларус і мае сваю Бацькаўшчыну, і мае сваю родную беларускую мову. Не павінен ніхто сароміцца таго, што нашу мову называюць прастой і брыдкай, але з гонарам адказаць кожнаму, што хаця яна простая і брыдкая для каго, але для нас яна пекная дзеля таго, што яна наша родная і мы павінны яе шанаваць і пашыраць.

*Спачуваючы.*

28/V—1928г.

# Пісьмо ў Рэдакцыю.

З вялікім здзіўленьнем і агідаю прачыталі мы ў газ. „Narod" пісьмо „выдатнай" нашай зямлячкі Мар'і Станкевічанкі, у якім яна манілася ў непрызваіты спосаб абразіць нашага старага паважанага дзеяча п. Т. Вернікоўскага.

Мусіць яна гэтым хацела паказаць, што „Ай, Моська, знать она сільна, коль лает на Слона"!

Надзеемся, што паважаны ўсімі п. Т. Вернікоўскі сам знойдзе шлях і спосабы для абароны сябе і не патрабуе нашай помачы. Але нас здзівіла гэтае бязстыднае пісьмо з другога боку і галоўным чынам дзеля таго, што напісана з в. Гародзькі.

М. Станкевічанка выстаўляе сябе ў сваім пісьме, як выдатную беларускую дзеячку. Але, нажаль, мы гэтае дзеяльнасьці ня бачылі. Праўда, яна выступала ад імя Паулюковіча інструктаркай на выбарах да гміннай рады. Але яна гэтак нас подвяла, што з нашага абводу ніхто ня быў на вабарах акрамя яе бацькі і дзякуючы ей ня маем цяпер ніводнага прадстаўніка ў гміннай радзе.

Затым яна адчыніла ў Гародзьках „Прасьвету", але толькі на паперы і сабе на карысьць. Чакаем, што п. Т. Вернікоўскі зробіць інспэкцыю і ў нашай „Прасьвеце", як гэта робіць у іншых мейсцах.

Была выстаўлена кандыдаткаю па сьпіску Паўлюкевіча да Сойму, але ў нас атрымала галасы толькі сваей радні дый і то ня ўсіх.

Вось якая дзеячка М. Станкевічанка!

Дальш яна вялічае сябе вучыцелькаю. Але па якому праву, мы ніяк ня можам уцяміць сабе, дзеля таго, што нам вядома, што М. Ст. была толькі ў першай класе вучыцельскай Сэмінарыі. Нарэшце і безграматнасьць яе пісьма сьведчыць аб яе „вучыцельскіх кваліфікацыях".

24—V 28 г. в. Гародзькі.

З пашанаю. (Сьледуюць подпісі).

**Ад Рэдакцыі:** Дзеля пэўных меркаваньняў мы не зьмяшчаем прозьвішчаў падпісаўшых гэтае пісьмо асобаў, аб якіх можна даведацца ў Рэдакцыі.

*Паважаны Пане Рэдактар!*

Ветліва прашу зьмясьціць гэтых некалькі слоў:

У воргане Д-ра Я. Станкевіча п. н. „Народ", вядомым з таго, што, рэдактар ягоны, мо за нестачай лепшага матэр'ялу, ахвотна зьмяшчае ў ім лісты рожных „перакульшчыкаў" і палітычных банкрутаў, кшталтам Міцькі, ці Пятровіча, — быў зьмешчан апошнімі часамі ліст Мар'і Станкевічанкі, якой кандыдатура у ... (ці-ж жартачкі!) паслы выклікала ў сваім часе шмат вясёласьці сярод беларускага грамадзянства.

Вось-жа гэтая, ашуканая ў сваіх хваравлівых амбіцыях, панячка, атакуючы сяброў групы п. Вернікоўскага, — прыпляла ня ведаць чаму да свайго „посланія" і маю скромную асобу, выяўляючы пры гэтым мой літэратурны псэўдонім.

Я ня лічу патрэбным адказваць на відавочную ерунду вясковае дзаўчыны гэтак сама, як не адказваў раней на брудныя, бёзпадстаўныя напасьці „грамадаўцаў" за мае крытычныя да іх адносіны, але немагу ня выразіць свайго зьдзіўленьня пану паслу Я. Станкевічу, які, будучы адукаваным чалавекам і ведаючы хіба з'мест матэр'ялу, друкуючагася ў ягонай газэце — лічыў адпаведным дазволіць М. Ст. на гэткі, пярэчучы элемэнтарным паймом журнальнай этыкі, учынак, як выяўленьне літэратурных псэўдонімаў.

Прыйміце паважаны п. Рэдактар і г. д.

*І. Цырскі.*

# Аб эміграцыі.

У друку зьявіліся абвесткі аб вярбоўцы работнікаў з Польшчы ў Алжыр, Туніс і Мароко (Афрыка).

Эміграцыйнае праўленьне папераджае, што гэтыя абвесткі выходзяць ад невялікай фабрыкі канфітураў, якая, як выясьняна на мейсцу, ня мае вольных вакансыяў і нікога прыняць ня можа. Вачавідна гытая фабрыка ёсьць толькі інфармацыйным бюро і даверчывых работнікаў вышле магчыма на якія-небудзь цяжкія работы.

Дзеля гэтага Эміграцыйнае праўленьне прапануе безработным устрымацца ад гэткіх прапазыкаў, бо апрача грашовых выдаткаў безработныя нічога не атрымаюць.

Эміграцыйнае праўленьне паведамляе, што варункі выязда і атрыманьня работы ў Алжыру, Тунісе і Мароко зьяўляюцца ў сучасны мамэнт абсалютна няпрыемлямы дзеля таго, што Польска-Француская Канвэнцыя аб найму работнікаў не разпаўсюджываецца на гэтыя правінцыі і юрыдычнае становішча работніка з Польшчы там значна горшае, чым ўва Францыі.

Эміграцыйнае бюро прапавуе безработным ня ехаць да Урагваю, дзе цяпер адчуваецца вострае безрабоцьце і прыбываючыя зПольшчы работнікі ня могуць атрымаць працы. Ехаць могуць толькі тыя асобы, якія маюць адпаведныя выклікі ад прадпрыемстваў ці стала пражываючых там крэўных.

У Аргэнтыне лягчэй могуць дастаць працу жанчыны, чым мужчыны, дзеля таго, што у местах і вёсках адчуваецца вялікі недахоп жаноцкай абслугі.

У Каліфорніі пануе вялікае безрабоцьце. Зарэгістравана 170,000 безработных. Па вуліцах езьдзяць кухні, якія выдаюць безработным бязплатныя абеды.

# Усячына.

## Насяленьне зямной кулі.

У мінуўшым годзе ў Жэнэве адбылася канфэрэнцыя вучоных, сацыёлогаў, статыстаў і дактароў, якіх непакоіць факт бязупыннага прыросту насяленьня зямной кулі, ня гледзячы на войны, эпідэміі і інш. Цяпер насяленьне зямной кулі складае 1,800 мільёнаў чалавек і кожны год павялічываецца на 24 міл. чал. А дзеля таго, што зямля можа пракарміць ня больш 5 мільярдаў чалавек, дык можа наступіць няўнікнёная катастрофа, калі насяленьне будзе з гдткаю хуткасьцю павялічвацца далей. Пры гэтым сытуацыя пагаршаецца тым, што насяленьне павялічваецца ня ўсюды аднолькова і дзяржавы, дзе прырост ёсьць большы, з часам могуць стаць небясьпечнымі „вульканамі“. Гэткімі магчымымі вульканамі будуць Японія, Нямеччына і Італія.

Насяленьне разьмешчана на зямной кулі вельмі нераўнамерна. Гэтак Еўропа з плошчаю у 10 міл. кв. кіл., мае 450 міл. чал., у той час, як напр., Канада з гэткай плошчаю мае толькі 9 міл. чалавек, Аўстралія з 8 міл. кіл.— 5½ міл. насяленьня і г. д.

Калі насяленьне будзе так узрастаць, дык у 2000 г. дасягне 3 мільярдаў, а 2085 г.— —7 мільярдаў і ў 2165 г. — 14 мільярдаў. У 1941 г. насяленьне у Злуч. Штатах павялічыцца на 89 міл., у Японіі—43 міл., Нямеччыне — 47 міл., Італіі 31 міл. Гэныя людзкія вулканы ня маюць ужо новых тэрыторыяў для эміграцыі. Для японскай эміграцыі зачыняны ўжо Злуч. Штаты, Аўстралія, Н. Зэляндыя і Канада. З Нямеччыны штогодзьдзя выяжджае каля 50—70.000 чал., у той час як яна павінна пазбавіцца прынамся 500,000 у год. У Італіі сытуацыя яшчэ горшая.

У паасобных Эўропэйскіх дзяржавах насяленьне павялічваецца ў год у наступнай колькасьці: Аўстрыя—40,8 тыс. чал., Бэльгія—52 тыс., Францыя—52,7 тыс., Вэнгрыя—86,2 тыс., Галяндыя — 104 тыс., Чэха-Славакія — 128,3 тыс., Гішпанія—243,9 тыс., Румынія—243,6 тыс., Англія — 306,1 тыс., Італія 418,5 тыс., Нямеччына — 491,3 т., Польшча—501 тыс., Японія—898,2 міл. і Расея—каля 1,5000 мільёнаў...

Мінуўшая вайна, каштаваўшая 35 міл. ахвяраў, нічуць не затрымала узросту насяленьня. Адсюль бачым, што праблема урэгуляваньня насяленьня будзе грычынаю вайны ў шмат мейсцах зямной кулі...

## Пэрспэктывы будучай вайны.

Вайна будучага, як ведама, гэта вайна атрутным газамі, якімі цяпер усе дзяржавы тайком засабляюцца. Хто ў гэтай галіне што вынайшоў невядома. Ува ўсём абойме ўяўніцца малюнак страшэнных скуткаў гэнага спосабу самазнішчэньня чалавецтва толькі ў часе самай вайны, калі можа цэлыя гарады, ці вокругі у тылу праціўніка будуць вытручаны атрутнымі газамі з аэрапланаў праціўнага боку. Ёсьць гэткае страшэннае зьнішчаючай сілы газы, што ад іх уміраюць ня толькі людзі і ўся жывёла, папаўшая ў вобласьць іх дзеяльнасьці, але нават усялякая расьліна. Напрыклад даволі выслаць якіх-небудзь сотню магутных аэрапланаў, якія могуць захапіць з сабою па 200—300 пудоў бомбаў з атрутнымі газамі, на Лёндан ці Парыж, каб гэныя 4—5 мільённыя квітнучыя гарады перавярнуць у мёртвыя магільнікі ці шпіталі.

Але ў гарадох высока-культурных яшчэ ёсьць які-колечы ратунак. У выпадку палёту варожых аэрапланаў могуць быць даны сьветавыя ці гукавыя сыгналы для папярэджаньня жыхараў. А, напрыклад, жыхары нашых вёсак зусім безбаронны ў гэткім выпадку.

І вось толькі час-ад часу выбухі на хімічных заводах у Нямеччыне, канчаючыяся сьмерцяй лябарантаў і прафэсараў, працуючых над адкрыцьцём новых атрутных газаў, сьведчаць аб тэй інтэнсыўнай працы, якая вядзецца ў гэтай галіне.

Нядаўна здарыўся выбух газу „Фосгэну“ на хімічным заводзе каля Гамбурга. Гэта няпрыметны для вока, празрачысты газ, які паволі разсьцілаецца па зямлі і пранікае нават праз сьценкі ува ўсе будынкі. Папаўшыя ў іх сфэру дзеяльнасьці людзі ці жывёла адразу уміраюць ад кашлю, недахопу паветра, расьпіраньня грудзі і млосьці.

Як толькі паявілася першая вестка аб гэтым выбуху, усю ваколіцу і нават увесь мільённы партовы горад Гамбург ахапіла паніка. Усе, хто здолеў, разьбегліся ува-ўсе бакі. А хто пападаў у хвалю няпрыметнага газу, адразу падаў трупам. Прыбыўшая агнёвая стража і паліцыя у газавых масках толькі праз 2—3 гадзіны маглі пранікнуць да заводу, акружанага сьмяротліваю паветраваю заслонаю. Найбольш клопату прычынілі жыхары, зачыніўшыяся ў сваіх кватэрах і са страху, каб ня пра-

нік газ, ня ўпушчалі ратунковай стражы. Але што найгорш, дык тое, што праціўгазавыя маскі аказаліся недаволі баронячымі. Адзіным адпорным сьродкам зьяўляецца амоньяк, які разьліваўся па ўсей плошчы, дасягаўшай 17 кілёмэтраў у ва ўсе бакі ад заводу. Памёрла ужо каля 20 асобаў і да шпіталяў скіравана больш 400.

Колькі газу выбухла, невядома. Але на заводзе засталося яшчэ каля 55 тонаў (тона—61 пуд) фосгэну, які пастаноўлена заліць аманьякам. Гэта пацягне за сабою мільённыя страты. Гэты завод вытвараў між іншым атрутныя газы для Радавае Расеі, якая цяпер рыхтуецца для спробы новых газаў на манеўрах удоўжкі польскай граніцы. З гэтаю мэтаю будзе выселяна ўсё насяленьне і выгнана жывёла з паласы шырынёю у 25 кілямэтраў.

Дык вось якія пэрспэктывы будучай газавай вайны. Трэба адцяніць, што фосгэн належыць да аднаго з слабейшых па сваей дзеяльнасьці газаў.

# Навука і тэхніка.

## Яшчэ аб палёце на Месяц.

Пытаньне аб палёце на Месяц ці Марс трактуецца Т-вам Міжнародных Тэхнічных Прадпрыемстваў паважна. Т-ва рашыла ўвайці ў кантакт з вынаходчыкам ракэтнага апарату і зрабіць спробу адпраўкі ракэты на Месяц, ці Меркуры ў дасьледчых мэтах. Прадпрыемства гэта выклікаўся ўжо субсыдаваць кансорцыум амэрыканскіх мільянэраў.

Для нагляду за палётам гэтай ракэты у Зл. Штатах ужо паднята пытаньне аб будоўлі валатнога атражацельнага тэлескопу з дыямэтрам у 25 футаў (300 дзюймаў). Каб уцяміць сабе вялізарнасьць гэнае будоўлі, даволі напомніць, што самы вялікі тэлескоп, які зьяўляецца апошнім словам навукі, мае ў дыямэтры ўсяго 100 дзюймаў. Вартасьць новага тэлескопу перавышае 2,5 мільёнаў фунтаў штэрлінгаў (12,5 міл. даляраў). З гэтага тэлескопу палёт ракеты можна будзе наглядаць да самага канца яе шляху.

# Паштовая скрынка.

М. Казаровец,— газэта высылаецца.

Я. Шпаковіч — газэта Вам высылаецца.

Старшыне аддз. „Прасьветы“ ім. Я. Коласа — вёска Ваўкоўшчызна — Пратакол, Заявы і карэспадэнцыю атрымалі — пойдзе у наступным нумару.

П. Аўсялевічу — Пав. Маладэчанскага. Што Вам спадабалася газэта „Грамадзянін“ — гэта не знача, каб яе высылаць дарма. Пасьля пробнага нумару які высылаем, чакаем на падпіску.

М. Бярозка з гм. Радашковіцкай. Карэспандэнцыі пойдуць у „Грамадзяніне“

С. Белаўц. „Здрадніка“ атрымалі. Будзе зьмешчаны ў адным з бліжэйшых нумароў.

# Кутох жартаў і сьмеху.

## Добрая крыніца.

— Судьдзя (да абвінавачанага):

У пісьме абвінаватчыку пан напісаў столькі лаянак, і брудных слоў, што ўпрост ня можна зразумець, скуль пан узяў толькі лаянак?

— Абвінавачаны: — З перадвыбарных адозваў пане судьдзя.

## Сучасныя клопаты бацькі.

Ужо выдаў ўсіх трох дачок замуж. Цяпер застаецца толькі разьвясьці, і буду мець поўны спакой ў жыцьці.

## Сучаснае.

— Я кідаю свайго мужа.
— Што, здрадзіў?
— Не, але стаў зусім нязносны.
— Дзеля чаго?
— Пачынае ўлюбляцца ў мяне.

# Цэны ў Вільні.

(29 траўня).

Жыта (за 100 кілёгр.) 54 - 55 зл., авёс — 49—50 зл., ячмень бровaровы— 54 зл., крупяны—50 зл., вотрубі жытнія—35—36 зл., пшанічныя 36—37 зл. Салома жытняя 10—12 зл., сена 14—16 зл., бульба 16—18 зл.

Насеньня (цэны гуртовыя за 100 кіл.): канюшына чырвоная—1 гатунку — 300 зл., белая—300 зл., швэдка—325 зл., цімафейка—100 зл., сэрадэля — 32 зл., лубін 24 зл., авёс пасеўны 50—53 зл.

Мука пшанічная амэрыканская за 1 кілёгр. 1,10—1,20 зл., краёвая I гат.—1,00—1,10 зл., II гат.—80 —90 гр., жытняя 65 прац.—78—82 гр., 70 прац. — 75—78 гр.

Сала краёвае I гат. — 4—4,20 зл. за кіл., II гат. — 3,50—3,80 зл. Амэрыканскае 4,30—4,60 зл.

Малако 40—45 гр. літр., сьмятана—2,50—2,80 зл. Тварог 1,20—1,40 зл., сыр з тварагу—1,80—2,00 зл., масла несалёнае—5,50—6,00 зл., салёнае 5,00—5,70 зл., сьлівачнае—6,60—7,00 зл. Яйкі 1.20—1,40 зл. за дзесятак.

# Біржа.

| | | |
|---|---|---|
| Даляр . . . . . . | 8,90 | зл. |
| Англійскі фунт . . | 43,50 | „ |
| Залаты рубель . . . | 4,73 | „ |
| Сярэбраны руб. . . | 2,95 | „ |
| Нямецкая марка. . . | 2,13 | „ |
| Чырвонец. . . . . | 23,75 | „ |

## *Ад Адміністрацыі:*

Хто з падпішчыкаў ці Гурткоў «Прасьветы» не атрымлівае газ. «Грамадзянін» даведайцеся на пошце, бо газэта выходзіць і высылаецца кожны тыдзень па суботах.

Рэдактар-Выдавец Т. ВЕРНІКОЎСКІ. Бел. друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1